*SOS!*

# Выратуем дзяцей!

**Уладзімір ЛІПСКІ, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду.**

На Беларусі зараз пражывае 2 мільёны 928 тысяч 720 дзяцей, што складае 28,4 працэнта ад усяго насельніцтва рэспублікі. Яшчэ некалькі гадоў назад гэтыя лічбы былі значна большыя. Ды адкуль жа ім павялічвацца, калі нараджальнасць у рэспубліцы катастрафічна паніжаецца. У параўнанні з дачарнобыльскім, 1985 годам, яна знізілася па Мінску на 36 працэнтаў, па Гомельскай вобласці — на 26,8, па Магілёўскай — на 24,9, па Віцебскай — на 22,2, па Брэсцкай — на 20,4, па Мінскай — на 24,4, па Гродзенскай — на 17 працэнтаў. Калі ўзяць сярэдні працэнт па рэспубліцы (24,9), то атрымаем, што ў мінулым годзе ў параўнанні з 1985-м нарадзілася на 41 тысячу дзяцей меней. Цэлы горад людзей знік з карты нашай рэспублікі.

Не павінны маўчаць усе званы на Беларусі, хай б'юць трывогу аб тым, што пачалося ўжо прыкметнае знікненне нацыі. Пакуль палітыкі бяруцца за чубы, пакуль гастралююць спецрэйсамі па Амерыках ды Кітаях, тут, на радзіме, ужо прарваўся вулкан бяды і трывогі. Натуральны прырост насельніцтва з 1985 года знізіўся ў 5,3 раза. У мінулым годзе зарэгістраваны адмоўны прырост насельніцтва ў Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай абласцях. Пры гэтым расце агульная смяротнасць насельніцтва.

Хворая прырода нашай рэспублікі і хворая эканоміка парадзілі новую бяду — страшнае захворванне ўсяго грамадства. Гэты дыягназ пацвярджаецца хоць бы такім фактам: за апошнія 20 гадоў стала меней шлюбаў на 19 працэнтаў, а разводаў павялічылася на 28 працэнтаў. Калі раней на адзін развод прыпадала пяць шлюбаў, то цяпер толькі два. У мінулым годзе згулялі вяселляў 79 813 маладых пар, а развяліся 39 904 сям'і. За 8 месяцаў гэтага года малюнак не змяніўся (53 320 шлюбаў і 25 899 разводаў). Ад такой бацькоўскай хваробы зноў жа пакутуюць дзеці. Штогод каля сарака тысяч дзяцей пазбаўляюцца аднаго з бацькоў.

Асаблівую трывогу выклікае здароўе нашых дзяцей. Нядаўна мне давялося прысутнічаць на рэспубліканскім з'ездзе дзіцячых медыкаў, і я жахнуўся ад прыведзенай статыстыкі з даклада першага намесніка міністра Мікалая Іванавіча Сцепаненкі. Будзьце мужнымі, людзі, каб успрыняць гэты пякучы вулкан праўды!

Агульная захворваемасць дзяцей ад нуля да 14 гадоў у мінулым годзе склала 997,4 на тысячу дзяцей. Рэзка змяншаецца колькасць абсалютна здаровых дзяцей: у 1986 годзе — 70,7 працэнта, а праз чатыры гады — 49,5. Натуральна, што за кошт гэтага павялічваецца група рызыкі з хранічнымі захворваннямі. Расце колькасць дзяцей-інвалідаў, цяпер іх у рэспубліцы — 15 245. За перыяд навучання ў школе ў 5,5 раза павялічваецца колькасць дзяцей са скаліёзамі, у 5,8 раза — з парушэннямі постаці. На Беларусі 315,8 тысячы дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця — кожнае дзявятае дзіця рэспублікі. Жахлівая з'ява!

Дамоклавым мячом над дзецьмі павіс рак шчытападобнай залозы. За 19 гадоў, з 1966-га па 1985-ы, зроблены аперацыі 21 дзіцяці, а за апошнія шэсць — 172. Цяпер захворваемасць ракам шчытавідкі складае ў нас 2,7 на 100 тысяч дзяцей, а ў краінах Еўропы — 0,5. Ды тут мусім улічыць, што на дыспансерны ўлік да дзіцячых эндакрынолагаў пастаўлена яшчэ 50 тысяч хворых на шчытавідку дзяцей.

На ўліку стаяць 29 578 дзяцей з псіхічнымі захворваннямі. Расце і маладзее анказахворванне. Адназначны рост прыроджаных анамалій. Падымаюць "галовы" такія хваробы, пра якія савецкія медыкі даўно адрапартавалі, што беззваротна перамаглі іх, — дыфтэрыя, коклюш, туберкулёз.

Нават у Мінску, сталіцы нашай, становішча са здароўем дзяцей не лепшае. Хоць, здавалася б, тут сканцэнтраваны ўсе навуковыя і медыцынскія сілы, тут жыве вялікае начальства, тут найбольшая шчыльнасць дзіцячага насельніцтва (34%). І што ж мы маем у сталіцы?

У мінулым годзе здаровыя дзеці ў пачатковай школе складалі толькі 34,4 працэнта, у сярэдніх і старэйшых класах — 29. Кожны трэці падлетак мае ўжо хранічныя захворванні. Ці ўзляціць такі падлетак у нармальнае, актыўнае жыццё? Вось чаму дэлегаты Дзіцячага парламента былі аднадушныя ў тым, каб патрабаваць ад медыкаў праверыць радыяцыйную абстаноўку ў Мінску.

Здароўе жанчыны-маці і дзяцей — барометр сацыяльна-эканамічнага стану грамадства. Як бачым, наш барометр зашкальвае. Што рабіць нам, сябрам дзяцей, у такой сітуацыі?

Здаецца, наступіў час больш актыўных дзеянняў. Не толькі плакаць над праблемамі, але і ўздзейнічаць на палітыкаў і выканаўцаў, якія нясуць грамадзянскую адказнасць за стан рэспублікі, за лёс яе насельнікаў. Трэба вучыцца па вялікім рахунку абараняць правы дзяцей. І тут прымальныя самыя розныя метады. Прыклад таму — Дзіцячы парламент і яго рашэнні, выканання якіх мы будзем дамагацца. Ды, здаецца, і самі дзеці ўжо не будуць маўчаць.

На гэтай сесіі народныя дэпутаты абяцаюць даць нам Закон "Аб правах дзіцяці". Такога дакумента яшчэ не было ў гісторыі нашай дзяржаўнасці. І трэба нам усё зрабіць, каб растлумачыць яго параграфы дзецям і бацькам, разам з імі пайсці ў рашучы наступ. Давайце дамагацца, каб урад прыняў дзяржаўную праграму абароны сям'і і дзяцей, каб было створана самае "моцнае і стратэгічнае" міністэрства па правах дзяцей, каб урэшце быў распрацаваны і прыняты новы кодэкс сямейна-шлюбных узаемаадносін.

Гэта перспектыва, але і сёння маем у сваіх руках нямала дакументаў, якія могуць зрабіць пры пэўных намаганнях вялікую карысць для дзяцей. Вядома, што 21 лютага 1991 года Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў праграму "Ахова мацярынства і дзяцінства ва ўмовах уздзеяння вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1991—1995 гады". У ёй закладзены канкрэтныя клопаты аб сем'ях, якія трапілі пад чарнобыльскі "дождж", названы тэрміны выканання таго ці іншага задання, вызначаны адказныя. Але здаецца, што і гэта архіважная праграма мыльнай бурбалкай лопнула перад яе выканаўцамі. Таму дэлегаты ўнеслі такую прапанову: разам з Беларускім дзіцячым фондам, у супольнасці з іншымі грамадскімі арганізацыямі правесці пільны кантроль за выкананнем гэтай комплекснай праграмы. Вынікі праверкі далажыць Вярхоўнаму Савету і ўраду рэспублікі. А галоўнае — патрабаваць, каб сем'і з дзецьмі былі тэрмінова пераселены з тых месц, дзе больш 15—40 кюры.

Можа, такім чынам мы змаглі б дапамагчы тым 285 дзецям Магілёўшчыны, якія па сённяшні дзень жывуць у небяспечнай зоне. Можа, такім чынам змаглі б узвысіць Высокаўскую санаторную школу-інтэрнат у Камянецкім раёне для чарнобыльскіх дзяцей, у якой не хапае патрэбных медыкаментаў, экстрактаў для ваннаў, навейшага медыцынскага абсталявання. Можа, з дапамогай такога грамадскага кантролю мы змаглі б уздзейнічаць на будаўнікоў, каб яны хутчэй узводзілі ў пасёлку Лясное Мінскага раёна такі патрэбны дзіцячы анкалагічны цэнтр. Можа, незалежныя і прынцыповыя кантралёры змаглі б разабрацца, чаму не выконваецца праграма па аздараўленню дзяцей, па будаўніцтву для чарнобыльцаў новых санаторыяў і дамоў адпачынку, чаму гадамі валтузяцца чыноўнікі вакол выпуску дзіцячага харчавання ў рэспубліцы.

Існуючыя ў рэспубліцы вытворчыя магутнасці па выпрацоўцы дзіцячага харчавання забяспечваюць маленькіх кліентаў у мясных кансервах толькі на 17 працэнтаў, а ў вадкіх і пастападобных малочных прадуктах — толькі на 5 працэнтаў. Малочныя кухні Міністэрства аховы здароўя задавальняюць немаўлят толькі на 0,8 працэнта іх патрэбы. І гэта ў той час, калі большая палавіна маці-парадзіх не маюць груднога малака, а ў некаторых жанчын у грудным малацэ медыкі знаходзяць цэзій.

Нядаўна ў Дзіцячы фонд зайшоў у поўным сэнсе слова раз'юшаны мінчанін. "Што рабіць? Памірае двухмесячны сын, няма чым карміць. Я гатовы на ўсё!.." Якраз жа завітаў да нас добры дзядзька з Амерыкі, які прынёс каробку "Сямілака". Мы выручылі раз'юшанага бацьку. Але ж дакуль будзем спадзявацца на міласэрнасць людзей з-за акіяна? Яны, як высвятляецца, за проста так нічога не даюць. На нашай чарнобыльскай бядзе не супраць вырашыць свае фінансавыя праблемы ды падняць свой імідж сярод суайчыннікаў. Калі ж навучымся абараняць свой гонар, а гэта значыць — любіць і паважаць дзяцей, якія ідуць нам на змену?

Хутка новыя выбары народных дэпутатаў. Будзе мяняцца ўрад — гэты працэс непазбежны. І мы, грамадскасць, павінны ўсё зрабіць, каб да кіруючых мікрафонаў і тэлефонаў не прыйшлі новыя салаўі. Хопіць, наслухаліся іх песень! Думаецца, крытэрыем для ацэнкі любога палітыка і кіраўніка павінен стаць адказ на простае і зразумелае пытанне: што вы зрабілі, каб на Беларусі не паміралі дзеці?

Думаецца, сёння мы маем права ацэньваць дзейнасць той ці іншай грамадскай арганізацыі і партыі па іх адносінах да дзяцей. Але чамусьці не чуваць, каб хто з іх абнародаваў сваю цэльную праграму па выратаванню дзяцей.

Нядаўна адзін вялікі скептык з прэтэнзіяй на ідэолага нацыі, які, апроч сваіх сынкоў, не хоча бачыць і разумець пакуты іншых дзяцей, сказаў мне з пэўным нахабствам: "Ну што, Дзіцячы фонд выратаваў вам дзяцей?" Скептык атрымаў варты яго годнасці адказ. Але я палічыў неабходным паўтарыць яго тут з высокай газетнай трыбуны.

Так, Беларускі дзіцячы фонд, якому ў гэтым годзе споўнілася пяць гадоў, не выратаваў усіх дзяцей. Ды мы і не ставілі ў самым пачатку задачу, каб падмяняць ролю бацькоў і дзяржавы. Але мы знайшлі смеласць і цярпенне, каб сказаць грамадскасці і ўраду праўду пра нашых дзяцей.

Нам удалося згуртаваць вакол фонду тысячы людзей, сапраўдных энтузіястаў, сяброў дзяцей. І калі праўда, што вачыма дзяцей пазірае на нас сам Бог, то мы, сябры дзяцей, можам смела і даверліва разлічваць на Боскую спагаду і падтрымку. Сумленне наша чыстае ўжо таму, што ў складаны час перабудовы і неразбярыхі мы служылі і служым дзецям сумленна і аддана.

А цяпер пра некаторыя нашы канкрэтныя справы, якія ўпісаны не толькі ў біяграфію фонду, але сталі грамадска значнымі і прыкметнымі з'явамі, абагрэлі многія пакрыўджаныя душы.

За пяць гадоў мы сабралі ў народную капілку 113 мільёнаў 544 тысячы 900 рублёў. Калі пералічыць на сённяшні курс, то атрымаюцца мільярды. Усе яны выкарыстаны і выкарыстоўваюцца толькі на патрэбы сем'яў і дзяцей, якія трапілі ў бяду, без пэўнай падтрымкі не могуць выкруціцца з той бяды. У сферу нашай дабрачыннай увагі ўвайшлі дзесяткі тысяч бедных сем'яў і дзяцей, пакрыўджаных лёсам.

Толькі за апошнія два гады ў адрас Беларускага дзіцячага фонду нашы замежныя спонсары прыслалі 500 тон каштоўнага гуманітарнага грузу: медыкаменты, вітаміны, адзенне, дзіцячае харчаванне, медабсталяванне, інвалідныя каляскі, медыцынскія ложкі, цацкі, насенне. Увесь гэты груз мы прынялі сваімі рукамі з дапамогай добраахвотнікаў, захоўвалі гэты груз да яго размеркавання па раёнах і сем'ях, на самых розных складах Мінска. І гэта ў той час, калі ёсць рашэнне Саўміна аб выдзяленні нам належных складскіх памяшканняў.

Наш фонд стаў ініцыятарам стварэння незалежнай лабараторыі па вызначэнню радыенуклідаў у прадуктах харчавання. За мінулы год праведзена 12 320 абследаванняў. Цяпер адкрыты лабараторыі пры раённых санэпідстанцыях, і наша ўстанова, будзем лічыць, сыграла сваю ролю.

Варта ўвагі акцыя "Вясёлка надзеі" па дапамозе анкалагічна хворым дзецям. 38 з іх з такім захворваннем пабывалі ў ЗША ў лагерах, а 80 — на Нарачы ў "Зубронку". Мне асабліва запомніліся дзеці з чарнобыльскімі "аўтографамі", прааперыраваныя на рак шчытападобнай залозы. Цэлы месяц мы рабілі ўсё, каб яны забыліся на свае раны, да іх ездзілі пісьменнікі, мастакі, нават знакамітыя "Песняры". Вазілі ім вітаміны, фрукты, ягады, падарункі. Іх усмешкі — самая дарагая ўзнагарода ўсім нам.

Ды што і казаць, сотні, тысячы карысных спраў на рахунку Беларускага дзіцячага фонду. Але не дзеля пахвальбы я выкарыстоўваю сёння старонкі "Народнай газеты". Давайце лепш усе разам падумаем, як выратаваць нашых дзяцей.

*Напярэдадні падзеі*

## Погляд у будучае

Мы жывём у эры грубай сілы. Яна звязана з войнамі, насіллем, эксплуатацыяй і разбурэннямі... Чаму на долю людзей выпаў такі лёс і як прыйсці да грамадства любові, гармоніі і супрацоўніцтва?

Аб гэтым — выступленне пані Хак Джа Хан Мун — прэзідэнта жаночай федэрацыі за мір ва ўсім свеце, якое адбудзецца ў Мінску, у тэатры оперы і балета 22 лістапада. Яна ўжо выступала ў гэтым годзе ў ЗША, Японіі, Заходняй Еўропе, дзе з цікавасцю сустрэта яе філасофія, новы погляд на жыццё і будучае. Жадаючым пачуць пані Мун неабходна пазваніць па тэлефонах: 36-41-69, 36-42-30, 33-99-48.

**Пятро СЕМКІН.**

*Не теряем надежды!..*

**5 ноября нас, представителей трудовых коллективов, принял заместитель министра финансов Республики Беларусь Н.К.Лисай для обсуждения вопроса о компенсации по облигациям государственного целевого беспроцентного займа 1990 года. Членами оргкомитета были сформулированы предложения о выдаче товаров или денежной компенсации, учитывая сложное товарно-финансовое положение Республики Беларусь. Заместитель министра поддержал наше предложение о возможности выполнить долговые обязательства по вещевым облигациям в рамках закона о приватизации в виде приватизационных чеков.**

**Одновременно мы обращаемся в Верховный Совет Республики Беларусь.**

## Заявление

Мы, представители владельцев облигаций государственного целевого беспроцентного займа 1990 года, просим вас вернуться к рассмотрению вопроса о судьбе этих облигаций.

Постановления, принятые правительством во главе с В.Ф.Кебичем, незаконны.

Считаем, что приемлемое решение может быть достигнуто в рамках принятого Верховным Советом Закона о приватизации.

Поскольку наши обращения правительство не рассматривает, отделываясь отписками, а из наших материалов, направляемых для опубликования в прессу, удаляются факты и фамилии лиц, виновных в ограблении нас, просим Вашего разрешения на выступление нашего представителя на очередной сессии Верховного Совета.

**В.ЯКУБЕНКО (ПО "Горизонт"),
Л.ТРОФИМОВА (ПО "Интеграл"),
З.НЕЧАЙ (завод "Эталон),
Г.КРИВЧИК (ПО "МТЗ"),
Л.АГЕЕНКО (МППО им.Я.Коласа),
Н.ЛЕМБОВИЧ (БГПА),
Г.ГОРИН (БАТУ),
Е.ПЕТУШКОВА (БГУ),
Л.КОТЛИНСКАЯ (ВНИИП),
Г.БИРИЛЛО (ЖРЭУ Ленинского р-на г.Минска),
Г.ДЕМСКИЙ (БелНИИМиЛ),
В.КУЧИНСКИЙ (ТТУ),
А.ЦИШКЕВИЧ (НИИ ЭВМ),
И.КРИЩАНОВИЧ (МПО ЭВМ),
Н.СТЕФАНОВИЧ (МЭМЗ),
Ю.МЯСИН (завод им.Вавилова),
Е.БЕЛЬСКАЯ (завод "Промсвязь"),
Т.ИЛЬЕВА (Минскхлебпром),
В.ЖУРАВЛЕВ (стройтрест N 7),
А.ЗАСТРОВСКИЙ (Сбербанк),
В.Ф.РОМАНОВ,
М.ДРОЗД (от пенсионеров Минска),
представители городов Барановичи, Гродно, Борисова, Солигорска, горпоселков Бегомль, Городея и др.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Віншуем, калегі!

**Па заслугах аціналі працу творчага калектыву радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" члены камісіі, што вызначыла лаўрэатаў прэміі Саюза моладзі Беларусі — дарэчы, адзінай такой узнагароды для маладых.**

Яна будзе ўручацца штогод за асаблівыя заслугі маладых людзей у галіне навукі і тэхнікі, літаратуры, мастацтва, журналістыкі і архітэктуры, педагагічнай дзейнасці, рэалізацыі і абароны інтарэсаў моладзі.

Акрамя журналістаў з нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, імі сталі Ігар Ганчаронак — дацэнт, кандыдат фізіка-матэматычных навук, старшыня савета маладых вучоных беларускага дзяржаўнага універсітэта. Алег Коваль — балетмайстар-пастаноўшчык народнага ансамбля танца "Калаж" Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, Павел Павягаеў — кіраўнік вакальна-інструментальнага ансамбля Дома піянераў і школьнікаў Магілёва "Вясёлыя ноткі", Дзмітрый Еўтуховіч — член Саюза кампазітараў Беларусі.

Прэміі ўручаць у пачатку снежня. Лаўрэаты атрымаюць па 10 мінімальных зарплат, устаноўленых у рэспубліцы.

**Белінфарм.**

*Остановите!*

# Как медь превращают в золото

## новоявленные "алхимики" от бизнеса

**Андрей АРШАНСКИЙ**

**Тот, кто регулярно читает рекламные приложения и отделы в газетах, наверняка встречал неброские объявления типа: "Куплю лом меди". Нетрудно догадаться: барыши, которые получают коммерсанты, с лихвой покрывают все расходы.**

**Беларусь сама не производит цветные металлы. Однако республика стала крупным поставщиком ценного сырья на мировой рынок.**

С двумя уровнями преступности в этой сфере меня познакомил начальник одного из отделов ОБЭП УВД Мингорисполкома В.Ф.Зыскунов.

Регистрируется заготовительный пункт — предприниматели, как правило, располагают его рядом с крупными заводами. Противозаконной деятельностью он не занимается, а лишь "принимает сырье". Происхождение же принесенного лома заготовителей не волнует, а он почти всегда украден. В номере одной городской газеты я нашел пятнадцать (!) телефонных номеров, абоненты которых жаждали купить медь. В порядке журналистского расследования звоню. Отвечает голос, который сразу же выдает невидимый мне облик его обладателя: гориллоподобная физиономия и бритый затылок, глаза, выражающие полное отсутствие интеллекта, всепоглощающая наглость и жажда наживы. Да, и наверняка кожаная тужурка — своеобразная униформа современных рвачей. "Медь покупаете?" — "Покупаю, по сколько продашь?" Названная мною по неопытности сумма повергла собеседника в радостное изумление. Пришлось срочно прервать разговор. Другой абонент предложил 55 центов за килограмм меди, сказав, что это максимум. А вообще обычная цена скупки — примерно доллар за килограмм.

Существует и второй уровень хищений. Люди, имеющие прямой доступ к дорогостоящему сырью, не всегда способны устоять перед соблазном легкой наживы. Причем воруют нагло. Недавний факт. Сотрудник МП "Вадис" Ф., работавший охранником на заводе "Вторцветмет", сговорился с неким Ш. Под покровом ночи они загрузили в автомобиль полторы тонны меди и пытались вывезти ее с завода, однако были задержаны милицией. Общая стоимость похищенного оценивается в 2 441 250 рублей.

Куда уходит металл? В страны Прибалтики. За восемь месяцев текущего года при попытке незаконного вывоза за пределы республики изъято лома цветных металлов на общую сумму 1 082 797 тысяч рублей. Но Прибалтика — лишь перевалочный пункт. Вывезенное сосредоточивается в морских портах — Клайпеде, Таллинне и других. А затем приходят корабли, затовариваются украденной в Беларуси медью и... металлы стабильно поступают на западные рынки. При попустительстве закона нечистые на руку дельцы отправляют нужные государству средства в свой карман.

Сейчас в Совете Министров имеются предложения по выработке нового постановления, призванного как-то повлиять на ситуацию. Предполагается оставить в силе право коммерческих структур на закупку металлов, ограничив его выдачей лицензии. Возможно также, что будет запрещен вывоз лома цветных металлов за пределы республики, а скупку у частного бизнеса будет осуществлять "Цветмет".

Решит ли это проблему? Доводилось беседовать с компетентными работниками ОБЭП МВД. В один голос они говорили: "Увы..." Без осуществления жесткого контроля за пунктами сбора все останется по-прежнему, а гладким положение дел будет лишь на бумаге. Посадить же в каждую точку сотрудника ОБЭП невозможно, да и не нужно. Бороться лучше всего экономическими методами. На сегодняшний день цена лома в государственных приемных пунктах смехотворно мала. В зависимости от сортности она составляет от 72 до 350 тысяч рублей для меди и 72 — 408 тысяч для бронзы (за тонну). Конечно, при таких условиях предприятиям выгодно сдавать лом металлов частнику или самим находить каналы сбыта. Если же закупочная цена достигнет уровня, предлагаемого частными скупщиками, сырье сможет участвовать в производственных циклах не один раз.

В числе других способов защиты экономических интересов республики специалисты называют укрепление северо-западной границы Беларуси, через которую тонны дефицитного сырья вывозятся в Литву или в Латвию "партизанскими" тропами. Таможни есть только на основных дорогах, на проселочных же почти нет никакого контроля. Пока наша граница напоминает сито, республика будет продолжать терять миллиарды. Вероятно, стоит подумать и об ужесточении санкций против любителей нажиться на дефицитном сырье. Короче, необходим комплекс мер, которые способствовали бы прекращению экономического беспредела.

*Нам стала вядома*

## "Мадонны XX стагоддзя" — да снежня

Поўныя захаплення водгукі пакідаюць наведвальнікі выставы "Мадонны XX стагоддзя", якая праходзіць у Палацы мастацтваў. "Гэта гімн-рэквіем жанчыне, маці", — піша мінчанка Самсонава. "Дзякуй за божае святло, якое вы несяце людзям", — дапаўняе яе Святлана Глоба. "Вашы карціны даюць натхненне на ўсё жыццё", — пішуць мінчане Калпаковы.

Па шматлікіх просьбах выстава твораў Аляксея Кузьміча прадоўжана да снежня.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

*Ракурс*



## Справіцца з любой бядой

**У асобнай мабільнай механізаванай брыгадзе грамадзянскай абароны пры Беларускім рэспубліканскім штабе заканчваецца гадавая праверка.**

Салдаты з аварыйна-выратавальнага батальёна, які дыслацыруецца ў Аколіцы, паказваюць сваё ўменне. А ўмець патрэбна многае — расчышчаць завалы пры аварыях на прадпрыемствах і ў жылых дамах, ратаваць людзей пры паводках і пажарах, дакладна дзейнічаць у час экстрэмальных сітуацый на хімічных і радыеактыўна небяспечных аб'ектах...

Брыгада, створаная ў 1987 годзе, ужо выдатна зарэкамендавала сябе пры ліквідацыі аварыі на нафтаправодзе ў Брэсцкай вобласці ў 1990 годзе, лясных пажараў 1992 года і ў час нядаўняй паводкі на беларускім Палессі.

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**



*Тэатры*

**18—19 лістапада**

Пачатак у 19.00

**ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА**

19 лістапада — прэм'ера **"Сервнада", "Балеро", "Прывал кавалерыі"**. У сувязі з ад'ездам аркестра тэатра за мяжу балетныя спектаклі да канца лістапада будуць ісці пад фанаграму.

**ТЭАТР ІМЯ Я.КУПАЛЫ**

18 лістапада — **"Страсці па Аўдзею".**

19 лістапада — **"Нежанаты мнагажэнец".**

**Папярэдні заказ білетаў па тэл. 27-17-17.**

**БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІЯ**

(канцэртная зала)

18 лістапада — Нацыянальны ўзорны ансамбль песні і танца "Зорачка". Мастацкі кіраўнік — М.Іванова;

(зала камернай музыкі)

18 лістапада — **памяці В.Фралова.** Ансамбль старадаўняй музыкі **"Кантабіле".** Англійская музыка XVI—XVIII ст.

